 

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

26 ЛІСТАПАДА – 2 СНЕЖНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 40000 РУБЛЁЎ
№48 (240)

## АДНА ЗЯМЛЯ

### НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| Субота, 27 лістапада | | Нядзеля, 28 лістапада | |
|---|---|---|---|
| Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы: -5°C – -12°C | -5°C | Уначы: -4°C – -8°C | -3°C |
| Удзень: -1°C – -6°C | 0°C | Удзень: -2°C – -4°C | -2°C |






ГРОДНА

## Смаргонь вінаватая бюджэту

Высокай застаецца запазычанасць суб'ектаў гаспадарання Гродзенскай вобласці перад дзяржбюджэтам - на 1 лістапада яна складала 200 мільярдаў рублёў.

Яшчэ ў ліпені паводле рашэння аблвыканкома пры гарадскіх і раённых выканкомах былі створаныя рабочыя групы па кантролі за выплатамі ў бюджэт, у якія ўвайшлі работнікі эканамічных службаў выканкомаў і падатковых органаў. Яны здолелі дамагчыся зніжэння запазычанасці па плацяжах у бюджэт, якая на 1 ліпеня складала 280 мільярдаў, а на 1 кастрычніка - 215 мільярдаў рублёў.

Найбольшую запазычанасць перад бюджэтам маюць прадпрыемствы і арганізацыі Ленінскага раёна Гродна, якая складае 53 мільярды рублёў, ці 26 працэнтаў ад агульнай па вобласці. У лік буйных даўжнікоў уваходзяць таксама Смаргонскі раён - 16,7 мільярда (8,4 працэнта) і горад Ліда - 14,6 мільярда рублёў (7,3 працэнта).

*Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Другія за восень канікулы

Вучні школы мастацтваў ужо другі раз пайшлі на канікулы: па канікулярных днях яны апярэджваюць іншыя гарадскія школы. "Віной" – сёлетняе новаўвядзенне ў школе: 5 тыдняў вучобы – тыдзень адпачынку.

А летась тут прыжыліся яшчэ два новаўвядзенні. Выкладчыкі атрымліваюць так званыя прэміі за здароўе з дырэктарскага фонду: адміністрацыя матэрыяльна стымулюе тых, хто меней часу прапускае работу з-за хваробы. А ўрокі ставяцца парамі, кожны па 35 хвілін.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## «Беларусь» англамоўная

Былы карэспандэнт маладзечанскай абласной газеты "Чырвоны сцяг" **Аляксандр Шабалін**, цяперашні рэдактар часопіса "Беларусь", выдаў першы англамоўны нумар "Беларусі".

"Візітная картка рэспублікі", перш за ўсё, будзе распаўсюджвацца па пасольствах, місіях, замежных прадстаўніцтвах.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## 10 балаў за веды

Мясцовая гімназія перайшла на 10–бальную сістэму ацэнкі ведаў вучняў. Такі эксперымент праводзіцца ў 18 навучальных сярэдніх установах краіны.

*Наталля ВАЛЫНЕЦ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Бібліятэкары адсвяткавалі Новы год

Новы год для работнікаў чытальнай залы цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя М. Багдановіча надышоў у мінулы аўторак. Яны выканалі гадавы план па чытачах.

"Выніковы фармуляр" №5560 запоўнілі для навучэнкі музвучылішча Наталлі Ганчар.

*Аддзел інфармацыі.*

МЯДЗЕЛ

## «Экалогія» і школа адновяць парк

У сталіцы распрацаваны праект рэканструкцыі старадаўняга парку ў Старым Мядзеле, дзе прадугледжана шмат мерапрыемстваў, каб парк прыхарашыць. Будзе нават і "альпійская" горка.

Ажыццяўленне праекта пачнецца з наступнага года. Фінансаванне за экалагічнай інспекцыяй раёна. Сам жа праект створаны па ініцыятыве мядзельскай СШ №2, за якой парк і замацаваны.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Дзеці чакаюць тат і мам

Заўтра школа–інтэрнат для дзяцей–сірот ўпершыню праводзіць дзень адчыненых дзвярэй. 224 выхаванцы чакаюць патэнцыяльных тат і мам. Альбо тых, хто возьме над імі апеку ці проста запросіць да сябе на выхадныя і канікулы.

4 "А" клас спецыяльна падрыхтаваў партрэт класа: вершы, песні. Дзеці пакажуць умовы пражывання і вучобы. За гісторыю існавання многія яе вучні знайшлі новыя сем'і. Апошнім часам лёсам валожынскіх сірот цікавіцца замежжа.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

## На «Зеніце» новы дырэктар

На гэтым тыдні да службовых абавязкаў прыступіў новы дырэктар завода "Зеніт" **Ігар Каляда**.

Дагэтуль ён працаваў галоўным інжынерам на заводзе "Дыяпраектар" у Рагачове. 43–гадовы дырэктар – самы высокі сярод былых "зенітаўскіх" кіраўнікоў – 192 сантыметры.

*Наталля ВАЛЫНЕЦ.*

СІТУАЦЫЯ

# Талончыкі да ўрача становяцца асноўным дэфіцытам

*Ідэя аб'яднання для сталічных чыноўнікаў — быццам выратавальны круг. Спачатку аб'ядноўваліся выканаўчыя структуры Смаргоні і Вілейкі. Пару тыдняў таму старшыня Мінскага аблвыканкома **Мікалай Дамашкевіч** сказаў у Валожыне, што кожны раён павінен аб'яднаць не менш за 5 калгасаў з найбольш моцнымі прадпрыемствамі. Чарга дайшла і да бюджэтнікаў. 28 кастрычніка ў Дзяржынску ў прысутнасці Мікалая Дамашкевіча прагучала: у Маладзечне і Барысаве аб'ядноўвацца будуць медыкі.*




*Аўторак. 7 гадзін 30 хвілін.*
*Чарга ў рэгістратуру гарпаклінікі за талончыкамі да ўрача. Натоўп пачынае ўтварацца прыкладна а шостай гадзіне каля яшчэ зачыненых дзвярэй паліклінікі.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Станоўчая рэакцыя кіраўніка вобласці падштурхнула чыноўнікаў да рэалізацыі праекта. Абласная ведамасная медыцынская калегія разгледзела пытанні аб'яднання і прыйшла да станоўчага выніку. А вось самі ўдзельнікі – тэрытарыяльна–медыцынскія аб'яднанні Маладзечна, Маладзечанскага раёна, як і работнікі абодвух выканкомаў, аб працэсе аб'яднання пачулі ў апошнюю чаргу.

– Я супраць, – гаворыць галоўны ўрач Маладзечанскага ГТМА **Казімір Клыга**.

Ягоны калега, галоўны ўрач РТМА **Іван Лужынскі**:

– Сітуацыя патрабуе самай сур'ёзнай увагі, бо закранае інтарэсы 50 тысяч вяскоўцаў, інтарэсы існуючай сістэмы сельскай аховы здароўя. А апошняя ўключае – ні многа, ні мала – 38 медыцынскіх устаноў. Гэтае пытанне трэба разглядаць і з пункту гледжання нашых пацыентаў.

Гарадская паліклініка разлічаная на 700 наведвальнікаў у дзень. На справе іх каля 5 тысяч. Прадугледжваецца ж аб'яднанне службаў: да прыкладу, гарадскія і раённыя хірургі будуць весці прыём у адным месцы і г. д. Калі паліклініка і не складзецца, як той картачны домік, ад натоўпу, трапіць да ўрача, у такім выпадку, усё адно будзе вельмі складана. Здавалася б, ёсць выйсце – службы медыкаў развесці па розных будынках. Аднак гэта для хворых нязручна.

– Гістарычна мы прыстасаваныя працаваць на жыхароў горада, – гаворыць Казімір Клыга.

Калі аддзяленні стацыянара, якія знаходзяцца на тэрыторыі горада, абслугоўваюць і вяскоўцаў, і гараджанаў, а грашовыя ўзаемадзеянні паміж ГТМА і РТМА не вядуцца, то з амбулаторным прыёмам проста бяда. Нейкіх станоўчых момантаў ад аб'яднання медыкі не бачаць.

Значна ўзрастае радыус абслугоўваемай тэрыторыі. Кіраўніцтву нановастворанага ТМА цяжка будзе валодаць сітуацыяй. Ды і кіраваць медыкамі таксама. На сёння ў горадзе працуе 2300 медыкаў, яшчэ 800 – у раёне.

Аб'яднанне не абяцае быць выгадным і эканамічна. Работа з хворымі спецыфічная, пасады не скароціш. Гарадскія медыкі запазычыліся 51 мільярд рублёў, раён – 14 мільярдаў. І калі раней была – ды і цяпер яшчэ ёсць – магчымасць выбіраць прыярытэты (на якія патрэбы выкарыстоўваць грошы), то ў далейшым раён можа застацца ні з чым.

Аб'яднанне, магчыма, і можа прынесці плён (думка аптымістаў), калі найперш будзе створаная матэрыяльная база. Да гарадской паліклінікі дабудуюць яшчэ такую ж па плошчы, завязуць сучаснае абсталяванне. Але гэта мары самых адчайных рамантыкаў на фоне вострага дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту.

– Мы крочым да малой грамадзянскай вайны, – гаворыць медсястра гарбальніцы. – Паміж гараджанамі і вяскоўцамі абавязкова ўзнікнуць бойкі у калідорах паліклінікі. У выйгрышы застануцца гараджане, бо з вёсак пакуль прыедуць, талончыкі ў рэгістратуры даўным–даўно будуць разабраныя.

Жанчына мае рацыю. Ля маладзечанскай гарадской стаматалогіі ў 7 гадзін ужо натоўп, іншыя займаюць чаргу ў 4–5 раніцы.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

НАШЫ Ў СВЕЦЕ

# Маліноўшчынская гарэлка – лепшая

*МАЛАДЗЕЧНА. Тры першыя месцы заняла прадукцыя СП Маліноўшчынскага спірт—гарэлачнага завода "Крышталь II" на 7-й міжнароднай выстаўцы алкагольных і безалкагольных напіткаў, тэхналагічнага абсталявання "Interdrink-99" у Маскве. Залатымі лаўрэатамі сталі гарэлкі "Айсберг—люкс", "Аквадзіў" і мінеральная вада з аднайменнай назвай.*

Сярод удзельнікаў былі усе былыя рэспублікі Савецкага Саюза. Нашу краіну прадстаўлялі мінскі "Крышталь", Маліноўшчынскі і гарэлачны завод з Гродзеншчыны. На долю беларускіх вытворцаў выпала адразу 9 медалёў.

Інжынер "Крышталя II" **Галіна Сончык:**

– У выставачным комплексе былі аформленыя стэнды з прадукцыяй. Спадабалася экспазіцыя "Ферэйн" Брынцалава. Дэгустацыя была закрытая і праходзіла тыдзень у маскоўскіх інстытутах "БІЯ-тэхналогіі", вінаробчай півапарнай безалкагольнай прадукцыі.

Маліноўшчынскі гарэлачны завод – удзельнік многіх выставак. У Маскве, Санкт–Пецярбурзе, Кіеве, Сочы ён ужо атрымліваў прызавыя месцы. Дарэчы, у Маскву беларусы віно не везлі. Спецыялізаваная выстаўка пладова–ягадных вінаў традыцыйна праходзіць у Ялце.

**– Раскажыце крышку пра назвы выстаўленых гарэлак.**

– Назвы ўражвалі колькасцю і сэнсам: "Беспохмельная", "Женская", "Товарищ". У нас жа ў дзяржстандарце складана "прабіць" новую назву. А форма бутэлек! Бутэлька–ружжо на 3 літры, у форме боціка, фарфоравыя бутэлькі пад "гжэль". У Татарстана па відах была амаль самая вялікая калекцыя, аформленая ў нацыянальным стылі.

**– Кожная выстаўка – гэта новыя дагаворы на пастаўку прадукцыі. "Расцягалі" вашыя залатыя гарэлкі?**

– Прапаноў заключыць з намі дагавор было вельмі шмат. Іншая справа, што ў Расіі, прыкладам, вялікія пошліны на ўвоз. Расійскія гандляры прыкладна 17 рублёў губляюць на кожнай бутэльцы. Дарэчы, цэны на гарэлку там розныя: 23 рублі, 41.

**– Прадаецца безалкагольнае піва. Безалкагольную гарэлку нехта дэманстраваў?**

– Наколькі я ведаю, такая навінка яшчэ не з'явілася.

**– Выставачную калекцыю ў Маскву везлі ў кантэйнеры з аховай?**

– Не. У сумках, цягніком.

**На рахунку мінскага "Крышталя": "золата" прысуджана гарэлцы "Усяслаў–Чарадзей", "Бальзаму Беларускаму", лікёру "Аксаміт". "Серабро" у гарэлкі "Белая Русь–люкс", "Супер–люкс" і настойкі "Журавіны на каньяку".**

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

 



На Мястры.

# Мястэчка, якое стала горадам

*Мядзел знаходзіцца паміж азёрамі Мястра і Баторын, на шашы Маладзечна—Паставы, за 160 кіламетраў на паўночным захадзе ад Мінска, 35 кіламетраў да чыгуначнай станцыі Княгінін. У горадзе 8,3 тысячы жыхароў (дадзеныя 1998 года).*
*Меў назвы: Мядзела, Мядзкол, Мядзюл. Горадам стаў 30 снежня 1998 года. Працуюць хлебазавод, камбінат кааператыўнай прамысловасці, лясгас, Дом культуры, клуб, Дом дзіцячай творчасці, 3 бібліятэкі, 3 сярэднія школы, 4 дашкольныя ўстановы, бальніца, паліклініка, 2 аптэкі. (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, Мінск, 5 том, 1999)*

Зіма ўваходзіць у свае правы. У дзень паездкі ў Маладзечне амаль бесперапынна ішоў мокры снег. Але парадокс: хаця Мядзел знаходзіцца паўночней, там ні снегу, ні дажджу не было.

Паселішча вядзе сваю гісторыю з 1324 года. Возера Мястра раздзяляе яго на дзве часткі: Стары і Новы Мядзел. Жыццё тут цячэ няспешна, на "старое" і "новае" не падзяляецца. Вецер перамен быццам не дайшоў да гэтага гарадка, і змена эпох ніяк на яго не паўплывала. І 10 год таму наведвальнікі Мядзела бачылі тыя ж невялікія дамы, жыхароў, якія калі–нікалі з'яўляюцца на вуліцах, рэдкую аўтамашыну, што парушае цішыню сваімі недарэчнымі гукамі.

Даходжу да цэнтра горада (толькі прыслухайцеся да назваў вуліц і плошчаў): Леніна, Шаранговіча (гэта і вуліца, і плошча Мядзела), Крупскай, Савецкая, 17 верасня. Як і дзесяцігоддзе таму, стаіць гранітны Ленін і задуменна глядзіць на возера, якое даволі нечакана з'яўляецца перад вашым позіркам.

Хочацца ў манументальнага правадыра спытацца: "Ну як, відаць святло ў канцы тунэля? Ужо абрыдла гэтая недабудаванасць нашага жыцця. Можа, з такой вышыні лепей відаць, куды ўсім нам трэба ісці?"

А каля возера добра марыць. Вось Мястра – яно пераможа час і будзе верна служыць людзям. Здаўна возера карміла сваімі дарамі. Шмат стагоддзяў таму людзі, што жылі тут, дзякавалі яму, маліліся на свайго кармільца, ды і ў будучым яно будзе мірна плёскаць, радуючы вока жыхароў гэтага горада.

Завітаў у магазіны. Як і раней, у тыя гады, што называюць "застойнымі", па нядзелях працавалі толькі харчовыя. Прадуктаў, як відаць, хапае, але яны даражэйшыя, чым у наваколлі ці, прыкладам, у Маладзечне. Танная толькі рыба. Пры цяперашніх цэнах гэта немалаважна.

На магазінных паліцах – ад цукерак да гародніны. Вось цэны, што прыцягнулі ўвагу: кілбаса каштуе ад 897 тысяч за 1 кг (Мінская вараная) да сыравэнджанай Беразінскай – 2636 тысяч. Ёсць і кілбаса Маладзечанская паўвэнджаная – 1526 тысяч. 3–літровы слоік марынаваных агуркоў каштуе 518 тысяч, кансервы – ад 179 да 274 тысяч, масла сялянскае – 1002 тысячы, мойва – 598, мінтай – 868, капуста – 43, бананы – 506.

Дарэчы, знайсці работу ў горадзе цяпер ужо цяжкавата, таму многія едуць на заробкі ці летам шукаюць работу на мясцовых курортах.

Вось выехаць адсюль аказалася цяжкавата. Аўтобусы, што прыходзілі, былі перапоўненыя. Вырашыў, што ўсё ж такі чыгунка – самы надзейны спосаб перамяшчэння: пасля гадзіннага аўтапрабегу аказаўся на станцыі Княгінін, дзе, напэўна, апошні раз у гэтым годзе прайшоў па бясснежнай зямлі. Падарожжа ў мінулае завяршылася.

**Юрый КАРПІЦКІ.**




Выпадкова натрапіў на царкву, якіх ніколі ў жыцці не бачыў. На невялічкім доміку, які вельмі падобны на звычайны жылы, заўважыў нейкі надпіс. Калі падышоў бліжэй, убачыў, што гэта хрысціянская царква, а надпіс быў: "Бог есть любовь".




Мядзельскі рынак быў абсалютна пусты. Днём з'явілася адна бабулька, якая спрабавала прадаць агародніну: буракі, хрэн. Паспрабуй пражыві на адну пенсію!



Каля Дома быту стаіць прыгожы будынак са сцягам на даху — пошта. Такой пабудовай ганарылася б, напэўна, і суседняе Маладзечна. На шыльдачцы прачытаў: "Раённы вузел сувязі г/п Мядзел" (за год не дайшлі рукі змяніць шыльду з прычыны таго, што Мядзел стаў горадам).

На пошце былі цуды "рыначнага сацыялізму": цукеркі, цацкі, шакаладкі і да т. п. Усё выглядала не вельмі дарэчы — нехта з мясцовых прадпрымальнікаў адкрыў тут гандлёвы пункт.




У самым цэнтры, на будынку Дома быту красаваўся яшчэ і нумар яго тэлефона. Мядзельцы, мусіць, яго скажуць, калі і ноччу разбудзіш.



Па словах мядзельцаў, адзінае месца, дзе моладзь можа адпачыць, — мясцовы клуб.



На школьнай спортпляцоўцы ўбачыў чатырох хлапчукоў, якія азартна гулялі ў баскетбол. Калі нечакана з'явіўся незнаёмы дзядзька з фотапаратам, зацікавіліся, але потым гульня разгарэлася з новай сілай. Дзякуй за запрашэнне яшчэ раз наведаць Мядзел.



Мядзельцы добра ведаюць, што жывуць у горадзе. Прыкладам, вучань 7 "А" класа СШ №1 Іван Чайкоўскі ўдакладніў, што гараджанінам ён стаў з восені мінулага года.



На выездзе з Мядзела ўбачыў працэсію, што ішла з боку горада: бабулька, а за ёй, быццам салдаты, 5 коз. Калі бабулька наблізілася, то найперш спыталася: "Ці трапіла я ў кадр?" Калі пачула ў адказ: "Не", уздыхнула з палёгкай: "Ну, і слава богу!". Нічога, я зрабіў для вас асобны кадр.

ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

НА ЗАЙЗДРАСЦЬ А. БЕНДЭРУ

# Бразільская валюта 80–х на Маладзечанскім базары

*МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму прадаўцоў мясцовага калгаснага рынку «завалілі» бразільскай «валютай». 6 чалавек на працягу дня звярнуліся да валютчыкаў з просьбай абмяняць 100 нямецкіх марак новага ўзору, якія насамрэч аказваліся бразільскімі сет cruzados (у васьмідзесятыя гады бразільскай грашовай адзінкай былі крузейра, затым на пэўны час з'явіліся згаданыя крузада, на змену якім, у сваю чаргу, прыйшлі цяперашнія рэалы).*







*Паглядзі. І больш не трапляйся на вуду злодзеяў.*

Міні–спектаклі ля гандлёвых палатак разыгрываліся па адным сцэнарыі. Пакупнік браў тавар, даставаў кашалёк і "сартаваў" купюры ў пошуках беларускіх грошай. Знешні выгляд пакупніка сведчыў пра яго далёка не горшыя ўмовы існавання. Прадаўцу даваліся ў залог "100 новых марак". А "затаварыны" ішоў шукаць жонку, каб узяць у яе грошы і разлічыцца "зайцамі". І, натуральна, знікаў.

100 cruzados па плацежаздольнасці можна параўнаць з 1 капейкай савецкіх часоў (у тым сэнсе, што за яе цяпер нічога не купіш). Знешне сапраўды купюра падобная на новую нямецкую "сотку".

**СТАТЫСТЫКА**

***Фінансавая міліцыя абслугоўвае Маладзечна, Вілейку, Мядзел, Валожын і адпаведныя раёны – у гэтым ліку 6721 юрыдычная асоба ўсіх формаў уласнасці і прадпрымальнікі.***

– З заявамі наконт гэтых выпадкаў падману да нас ніхто не звяртаўся. Ахвяры самі парушылі закон, – гаворыць намеснік Маладзечанскага міжрайаддзела ўпраўлення дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў па Мінскай вобласці і Мінску **Эдмунд Станкевіч**.

Сёлета выяўлена 45 парушальнікаў дэкрэта "Аб мерах па забеспячэнні парадку пры здзяйсненні валютна–абменных аперацый". Толькі валюты ў іх канфіскавана ў пераліку на беларускія грошы на 2 мільярды 742 мільёны.

**СТАТЫСТЫКА**

***Сёлета ўзбуджана 70 крымінальных спраў. Асноўным відам злачынства з'яўляецца ўтойванне падаткаў.***

– Што тычыцца падману з cruzados на калгасным рынку, падобны выпадак быў у Вілейцы. Тады з буфетчыцай разлічыліся аргенцінскай валютай, – гаворыць Станкевіч.

## Пра ролю нуліка ў гандлі

МЯДЗЕЛ. Прадпрымальнік з Вілейкі А. Х. выязджае ў іншы раён гандляваць селядцамі. Так спакайней, бо мядзельскія падаткавікі адсочваюць, у асноўным, работу сваіх гандляроў.

Пры праверцы на руках у прадпрымальніцы былі ўсе неабходныя дакументы. Вось толькі запоўненыя не зусім дакладна. Атрымалася, што жанчына прадала селядцоў на 17 мільёнаў 500 тысяч рублёў. А калі падлічыла грошы разам са спецыялістамі аддзела, аказалася, што зарабіла 170 мільёнаў 500 тысяч. Больш за 150 мільёнаў схавала ад падаткаабкладання.

– Гэта больш тонкі падман, – гаворыць старшы следчы міжрайаддзела **Юрый Валошанка**, – у тым самым Мядзеле Міхаіл Р. стварыў фірму "Варт". Займаўся перапрацоўкай расійскага збожжа ў муку і рэалізоўваў за наяўны разлік. Без дакументаў і, значыць, без справаздачы для падатковай інспекцыі. Турмы прадпрымальнік пазбегнуў, бо, як ліквідатар–чарнобылец, трапіў пад амністыю. Тым не менш, дзяржаве заплаціў 2 мільярды 36 мільёнаў.

## Гандляроў-замежнікаў паменшала

Праблему ствараюць яны не толькі фінансавай міліцыі, інспекцыі, але і мясцовым гандлярам. З–за канкурэнцыі.

Амаль усе неграмадзяне рэспублікі маюць часовую прапіску. І, гандлюючы, плацяць толькі за месца на калгасным, рэчавым рынках. Атрымаць пасведчанне прадпрымальніка яны не могуць па законе, ды і яно ім – як пятае кола ў возе. У ідэале замежнікі павінны плаціць падатак – 20% ад атрыманых за тавар грошай. Але дакументаў ніякіх у іх няма – вось і высветлі, колькі чаго прадалі.

**СТАТЫСТЫКА**

***МАЛАДЗЕЧНА. Ад пачатку года фінансавай міліцыяй выяўлена 386 фінансавых парушэнняў. Ужо спагнана ў бюджэт больш за 18 мільярдаў рублёў.***

І яшчэ. Неграмадзяне Беларусі маюць права браць да сябе на работу толькі тых, хто мае пасведчанне прадпрымальніка. Калі тавар тых самых в'етнамцаў прадае наша дзяўчынка без адпаведнага пасведчання, яна будзе адказваць па поўнай праграме.

**– Калі, напрыклад, звычайны спажывец, жыхар вёскі, прыехаў на рэчавы рынак набыць адзенне, а беларускіх рублёў у яго няма. У валютчыкаў долары мяняць – закон парушаць. Купляць за долары тавар – таксама. Якое зло большае?**

– Ужо ўведзеныя дапаўненні да вядомага дэкрэта, – гаворыць Э. Станкевіч. – Калі разлічваешся доларамі, можаш і не пацярпець, і долары твае не будуць канфіскаваныя. Праўда, кожны выпадак разглядаецца асобна. Гандляр жа будзе адказваць па ўсёй строгасці закона.

**– Ці здараюцца ў рабоце міжрайаддзела нейкія вясёлыя моманты, кур'ёзы?**

– Весялосці ў нашай рабоце малавата. На жаль, людзі ўдасканальваюць майстэрства падману. Стол у офісе згарэў, а ў ім была ўся дакументацыя. Ці, напрыклад, да бабулі ў вёску прыехаў з дакументамі. Папрацаваць з імі хацеў. Выйшаў на двор, а старая ў печ паперу і кінула. Прыкладаў такіх "захадаў" шмат. Нядаўна падобнае здарылася ў вытворчым прадпрыемстве "Ніколс". Праўда, яшчэ невядома, дзе танней абыдзецца – па дакументах заплаціць, ці за тое, што не захаваў дакументацыю.

**– А фірмаў–аднадзёнак, "падставак" у рэгіёне хапае?**

– Мы працуем, калі хочаце, па Леніне: улік і кантроль. Усё, што знаходзіцца на тэрыторыі рэспублікі, маем магчымасць праверыць дасканала. Іншая справа, калі дагавор заключаецца з нейкай расійскай фірмай. Прывез прадпрымальнік з–за мяжы тавар. Пячатка, накладныя расійскія. Вось і мяркуй, як праверыць законнасць здзелкі. Аднак і ў такой сітуацыі знаходзім выйсце.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

КУРСЫ ВАЛЮТ

## Курсы валют НБ РБ

| | 18 лістапада | 25 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 308 000,00 руб. | 310 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 163 792,76 руб. | 162 645,27 руб. |
| Літ | 77 019,25 руб. | 77 478,69 руб. |
| Рас. руб. | 11 700,00 руб. | 11 710,00 руб. |
| Злоты | 72 714,40 руб. | 74 349,44 руб. |
| ЕЎРА | 320 350,80 руб. | 318 106,50 руб. |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 690 000–720 000 руб. | 700 000–730 000 руб. |

ЦЭНЫ НА ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) | |
|---|---|---|---|
| | | 17.11 | 24.11 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 740 | **740** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 2484 | **2532** |
| Сасіскі | 1 кг | 715 | **715** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 660 | **660** |
| Рыс | 1 кг | 390 | **380** |
| Грэчка | 1 кг | 550 | **550** |
| Цукар | 1 кг | 235 | **235** |
| Алей | 1 л | 560 | **550** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 239 | **263** |
| Маянэз | 250 г | 110 | **110** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 750 | **745** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 270 | **270** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 190 | **200** |
| Лімоны | 1 кг | 620 | **650** |
| Бананы | 1 кг | 380 | **380** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 130 | **140** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 400 | **500** |
| Масла | 1 кг | 1100 | **1200** |
| Тварог | 1 кг | 400 | **450** |
| Малако | 1,5 л | 150 | **200** |
| Бульба | вял.вядро | 500 | **600** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 350 | **350** |
| Яблыкі | 1 кг | 300-350 | **350-400** |
| Капуста | 1 кг | 50 | **60** |
| Морква | 1 кг | 100 | **100** |

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## "TACIS" у дзеянні

*ВАЛОЖЫН. Прэзентацыя адной з праграм "TACIS" прайшла ў Пяршайскім цэнтры сацыяльна–псіхалагічнай рэабілітацыі насельніцтва з забруджаных тэрыторый. Цэнтр цяпер мае гамарадыеметр і жыхары навакольных вёсак могуць правяраць свае прадукты на наяўнасць радыенуклідаў.*

У хуткім часе грэкі паставяць цэнтру выдавецкую тэхніку, каб Пяршаі маглі друкаваць карысную інфармацыю і распаўсюджваць яе сярод насельніцтва. Да прэзентацыі былі выпушчаныя два каляровыя буклеты: як ужываць малако, грыбы і не зашкодзіць здароўю.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

## Крывічы падабраліся да Германіі

*МЯДЗЕЛ. Многія жыхары Крывічоў хацелі б працаваць на мясцовым заводзе металавырабаў. Заработкі тут да 25 мільёнаў.*

– Але так было не заўсёды, – гаворыць 32–гадовы дырэктар завода **Раман Клябека**. – Калі я прыняў гаспадарку, развал быў поўны: запазычанасці па падатках і зарплаце, ні сыравіны, ні ГЗМ. Пра настрой ў калектыве і гаварыць няма чаго. Дзякуючы агульным намаганням (пры тым, што многія пазвальняліся), выйшлі са складанай сітуацыі. Калі спачатку мне гаварылі "дырэктар, давай грошы", то цяпер – "давай фронт работы". Амаль 80% нашай дрэваапрацоўчай прадукцыі (дзвярныя блокі, дошкі для падлогі і тары і г. д.) ідзе на экспарт. Аж да Германіі дабраліся. Шукаць рынак збыту не толькі ў Беларусі прымусіла жыццё. Вось і сёння чакаем гасцей з далёкага замежжа.

*Мечыслаў СТАНКЕВІЧ.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## Прадалі ўнітаз з–за беднасці

МАЛАДЗЕЧНА. У пасёлку Пруды, што ў 20 хвілінах язды на дызелі ад райцэнтра, склалася крытычная сітуацыя па захоўванні правапарадку. Тамтэйшы камбінат будаўнічых матэрыялаў амаль што спыніў работу. Беспрацоўе.

У адной з кватэр пяціпавярховак гаспадары прадалі ўсю маёмасць, нават унітаз. Праўда, як сцвярджаюць многія, хто ведае тамтэйшы кантынгент, справа не ў камбінаце, а ў нежаданні людзей шукаць работу ў горадзе.

*Аддзел інфармацыі.*

## З садка дзеці трапілі ў бальніцу

ВАЛОЖЫН. Каторы год не ацяпляецца дзіцячы садок у Вішневе. Маленькія наведвальнікі сёлета зноў перасяліліся на зімовыя кватэры ў Вішнеўскую ўчастковую бальніцу.

Іхнія бацькі пра пераезд не шкадуюць. У бальніцы дзяцей аб'яднаць ў аздараўленчую групу. З імі праводзяцца фізіяпрацэдуры, прапануюць адвары лекавых траў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Даўгінаве лютуе зіма

**М. Даўгінова, Віленскай губ. Вілейскаго пав.**

Ад пятаго наябра стала ў нас зіма, і ад разу забушэвалася вялікай мяцеліцай, так што мала хто адважыўся прыехаць на торг, а хто і прыехаў, то начаваў дзе папала, бо выбрацца з сьнегу ня мог.

З вёскі Пагост выбраўся ехаць у Даўгінова Лейба Тіхернік, але бедны не даехаў – змёрз у сьнягу.

*В. Сос–кі.*

**М. Івенец, Мінскай губ. і пав.**

Селянін Адам Чапкоўскі 30 год пайшоў на палеваньне ў пушчу "Пешце", там яго захапіла мяцеліца, і вось ужо тыдзень як не вярнуўся да хаты; пакінуў ён жонку і 6 дробных дзетак.

*Сын Пятрука.*

**Ст. Радашковічы Ліб. Ром. ж. д.**

Каля станціі патроху робіцца маленькае мястэчка. Падумалі тут рупные людзі завясьці 2–х класную школу. Мужыкі суседніх вёсак да гэтаго прылучыліся. Колькі разоў мужыкі зьбіраліся ўсім обшчэством. Памешчык Пузына дае каля станціі дзесяціну зямлі, але ешчэ справа гэта не пайшла ў ход, бо ні земскі з Заслаўля, ні інспэктар вучылішчэ гэтым не цікавяцца.

*Пасажыр.*

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №48 ад 26 наябра 1909 года.**

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Ланцуг замянілі на кайданкі

ВІЛЕЙКА. Пачалося другое па ліку пасяджэнне суда па факце атрымання хабару былой загадчыцай Маладзечанскага медыцынскага вучылішча **Ларысай Тамошкінай**.

Нагадаем, яе арыштавалі год таму. На гэты раз у зале суда падсудная знаходзілася не на ланцугу, а ў кайданках.

*Аддзел інфармацыі.*

КУЛЬТУРА

## Колькасць і якасць творчасці

*АШМЯНЫ. Пераможцы раённага фестывалю сямейнай мастацкай творчасці на гэтыя выхадныя пакажуць сябе на вобласці. Гэта сёстры **Алена і Тарэса Коўпакі**, сямейны цыганскі калектыў "Джана Рома", інструментальны ансамбль вёскі Граўжышкі.*

Фестывалі (раённыя, абласны, рэспубліканскі) праходзяць раз у 2 гады. У першым Ашмянскім узялі ўдзел 30 сем'яў – найбольшы паказчык па вобласці. Сёння, як сказала загадчыца аддзела культуры Ашмянскага райвыканкома **Галіна Балінская**, больш увагі звяртаецца на якасць, а не на колькасць.

*Аддзел інфармацыі.*

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Аляксандра Касцюковіча.



**Па гарызанталях:** 9. Вядзьмар. 11. Супрацоўнік газеты, які дасылае допісы, паведамленні. 13. Жаночае імя. 14. Вялікі перыяд часу. 15. Белы клён. 16. Нямецкі фізік. 18. Нота. 19. Запас, накапленне. 20. Дзяржава ў Афрыцы. 22. Закончаная частка п'есы. 24. Злачынная групоўка. 25. Ваколіца. 26. Кніга для малюнкаў, вершаў. 27. Від гарадскога транспарту. 31. Скарочанае абазначэнне якаснага і колькаснага саставу якога–небудзь хімічнага злучэння. 32. Працэс атрымання клею. 33. Невялікая кніжка з мяккай вокладкай аб'ёмам не больш за 5 друкаваных аркушаў. 36. Дзік. 38. Вясёлы музычны твор для выканання на сцэне. 39. Ліставое дрэва. 40. Кінафільм "Пяты...". 42. Дзеянне ў адказ на знешняе раздражненне. 45. Старая адзінка меры даўжыні (прыблізна 2,5 см). 48. Падатак, які плацілі прыгонныя сяляне памешчыку. 49. Мужчынскае імя. 51. Вяроўка з пятлёй на канцы для лоўлі жывёл. 52. Удзельнік тэлеперадачы "Што? Дзе? Калі?". 53. Нацыянальнасць, распаўсюджаная на Блізкім Усходзе. 54. Суквеццe з кветкамі, насеннем (прынамсі, на вярбе). 55. Пляцоўка для бокса. 59. Тое, што было, рабілася даўно. 61. Назва парламента ў ЗША. 63. Адзіночны лік слова "вокны". 64. Кандрат Атраховіч. 66. Фігура, якой язычнікі пакланяліся як богу. 67. Трэцяя частка зямельнага надзела. 69. Дзяржава, на чале якой стаіць кароль. 70. Прышпілены абшлаг рукава ў сарочцы. 74. Памешчык у былой Прусіі. 75. Ядавітае рэчыва. 76. Суддзя ў спартыўных спаборніцтвах. 77. Прадметы дамашняй абстаноўкі: сталы, крэслы і іншае. 79. Самы нізкі мужчынскі голас. 82. Службовая ступень. 83. Спартыўны бег. 84. Метрычная мера плошчы (100 м²). 85. Жывёла, падобная на зубра. 87. Умоўны знак, якім абазначаюць музычны гук. 88. Вялікая жаба. 90. Прыбор для вымярэння глыбіні мора з борта карабля. 92. Навука аб атмасферных з'явах. 93. Вышэйшы радавіты слой дваранства, радавая знаць.

**Па вертыкалях:** 1. Мужчынскае імя. 2. Абазначэнне якой–небудзь рэчы словам. 3. Перапынак у час спектакля. 4. Прыслоўе. 5. Тое, да чаго імкнуцца людзі. 6. Узвышэнне каго–небудзь. 7. Папярэдняя аб'ява пра канцэрты, гастролі. 8. Квітанцыя касы. 9. Пагромшчык–рэакцыянер. 10. Пакрывала на ложак. 11. Край у чым–небудзь. 12. Дакладная перадача на пісьме ўсіх асаблівасцяў жывой гаворкі. 17. Электрамагнітны генератар пераменнага току для ўтварэння іскры. 18. Іспанская фашысцкая партыя. 21. Першы мужчына. 23. Дробна пакрышанае мяса. 28. Быстраходнае маторнае судна. 29. Антонім да слова "зло". 30. Ліхаманка. 34. Раздзел фізікі. 35. Чалавек, які адносіцца да пастаяннага насельніцтва краіны. 37. Нота. 39. Нота. 41. Павозка на чатырох колах. 42. Грабеж (устар.). 43. "Чырвоны" радок. 44. Абалонка, у якой вусень ператвараецца ў кукалку. 46. 4047 м². 47. Двухскладовая вершаваная стапа з націскам на другім складзе. 49. Глыбокае месца ў рацэ, з ямай, дзе адбываецца завіхрэнне плыні. 50. Фізіялагічны стан арганізма. 53. Гранічна варожае стаўленне да навукі, асветы. 56. Навука пра старэнне арганізмаў. 57. Вырабленая авечая шкура. 58. Даўней: вінакурны завод. 59. Нота. 60. Агент. 62. Нота. 64. Асоба, якой даручана кіраўніцтва, нагляд за кім–небудзь. 65. Крываносны сасуд. 68. Кветкі, суквецці. 71. Свяшчэннік у дахрысціянскай рэлігіі. 72. Пасведчанне аб заканчэнні навучальнай установы. 73. Сцяг. 78. Вялікі клавішны музычны інструмент. 79. Верхняя бакавая планка ў парэнчах маста, лесвіцы. 80. Рэшата з густой сеткай. 81. Вялікі гурт авечак. 84. Расійская тэлеперадача "Музычны ..." 86. Доўгая дзявочая каса. 89. Канал на расійскім тэлебачанні. 91. Літара ў грэчаскім алфавіце, якая абазначае гук "і".

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 47.*

**Па вертыкалях:** 1. Аркан. 2. Каша. 3. Губа. 4. Базар. 5. Архар. 6. Губка. 9. Кітай. 13. Рака. 14. Крок. 18. Абцас. 19. Колас. 21. Кант. 22. Лаўр. 23. Гонар. 24. Пакет. 26. Замак. 27. Канал. 29. Замах. 31. Барак. 33. Арат. 35. Атам.

**Па гарызанталях:** 5. Арган. 7. Кубак. 10. Аркуш. 11. Базіс. 12. Хабар. 14. Канат. 15. Банк. 16. Крах. 17. Арка. 19. Кола. 20. Аброк. 21. Кагал. 28. Поза. 30. Абат. 32. Накат. 33. Раман. 34. Памер. 35. Баран. 36. Ратай. 37. Бакал.

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# «Чорныя» гісторыі

**Справа была** ў «сямёрцы» – адным са студэнцкіх інтэрнатаў БДУ, што па Кастрычніцкай вуліцы ў Мінску. Стаю ўнізе, чакаю ліфт. Побач са мною прыстройваюцца два негры. Разам заходзім у кабінку, і тут адзін з іх на чысцейшай беларускай мове ветліва пытаецца:

– Вам на які паверх?

З прычыны лёгкага шоку нейкі час не магу гаварыць. «Спадарожнікі» рэагуюць пасвойму:

– Вы што, не разумееце пабеларуску?!

**Наступную гісторыю** расказаў знаёмы, які вучыўся пэўны час у Маскве, таму месца «здарэння» падзей дакладна невядомае.

Быў там у іх студэнт – просты савецкі негр Майкл. Савецкі ён быў да немагчымасці, бо нарадзіўся і вырас у СССР, служыў у арміі, як сапраўдны савецкі чалавек ніякай мовы, акрамя рускай, не ведаў.

У той час добрым тонам лічылася «прыкалоцца», вырашылі і яны адзначыць Новы Год у лесе, ля елачкі. 30 снежня выехалі на месца, падрыхтавалі там усё, разбілі палаткі. Ноч з 30 на 31, усе спяць. Апоўначы Майкл прачынаецца па натуральнай патрэбе, вылазіць са спальніка, пралічвае, што замерзнуць падчас «адпраўлення» не паспее, таму выскоквае на мароз у адных трусах. Падобнае, дарэчы, даводзілася бачыць у ЗША: на вуліцах ляжаў снег, а многія негры прагульваліся ў адзенні з кароткім рукавом.

Дык вось, знаходзіць Майкл зручнае месца (накатаную лыжню) і прыступае да працэсу. Аказалася, што не адны тыя студэнты былі аматарамі экзотыкі ў выглядзе зносінаў з навагодняй лясной прыродай – трэба ж было ў гэты момант з'явіцца лыжніку! Яго крыкі ўсіх і разбудзілі. Зразумейце чалавека, які ў заснежаным лесе (!), марознай ноччу (!!) бачыць голага (!!!) негра (!!!!), які спакойна спраўляе малую патрэбу (!!!!!!)...

А негр гэты яшчэ бег за ім і крычаў на чыстай рускай мове:

– Мужик, всё в порядке! Тебе не померещилось!

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ




«Товарищ Бендер» з Нацыянальнага парку «Нарачанскі»:

– Цяпер у нарачанцаў будзе з чым ездзіць у госці і чым частаваць гасцей!

*Міхась КУПСКІ.*

ПРОСТА АНЕКДОТ

У мужчынскай кампаніі ўсе весяляцца, п'юць, толькі адзін сядзіць засмучаны.

– Ты чаго такі?

– У жонкі СНІД знайшлі... Ды пажартаваў я, мужыкі! Што вы ўсе такія бледныя парабіліся?..

• • •

Па радыё паведамляюць, што з турмы збег небяспечны злачынца. На другі дзень - усё ў парадку, уцякач раніцой добраахвотна вярнуўся ў турму. Сукамернікі пытаюцца ў мужыка, чаму ён вярнуўся, сам сябе волі пазбавіў.

– Ды бачыў я гэтую волю!.. – злуе мужык. – Пад раніцу дабраўся да хаты, а жонка мне – ты дзе бадзяўся, кабель, па радыё яшчэ ўвечары сказалі, што ты збег!?

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Не выхваляйся

Ніхто не цягнуў Марціна за язык расказваць, што яго жонка Тэкля вырасціла шмат агуркоў. У вёсцы іх ніхто не каштаваў, а Марцін з Тэкляй елі агурочкі са свежай бульбачкай. У слухачоў цякла сліна. Ніхто не асмеліўся прасіць у Марціна насенне тых ранніх агурочкаў, бо ведалі, што сусед вялікі скнара.

– Мае агуркі як зачэпяцца за ногі таго, хто ступіць на градкі, так і не адпусцяць, – казаў Марцін–хвалько.

Увечары ля вогнішча на начлезе сядзелі, пяклі бульбу і размаўлялі аднавяскоўцы.

– Вось бы да бульбачкі Марцінавы агурчыкі!

– У чым справа? – азваўся яго сусед. – Гайда са мной.

Васіль, Лявон, яшчэ двое хлопцаў крочылі да вёскі Некасецк. Адразу яны пабраліся за рукі, каб выцягнуць таго, хто будзе рваць агуркі і складваць у кішэні. А потым забыліся на Марцінава закляцце, кінуліся самі на здабычу. У цемры нялёгка адшукаць агуркі, таму Васіль лёг на граду і пакаціўся. Адразу адчувалася, дзе ляжаў агурок.

Агурэчныя злодзеі ўзялі столькі, колькі маглі з'есці. Іх на агарод прывяло жаданне праверыць, ці сапраўды Марцін мае шмат агуркоў і ці дзейнічае яго пагроза.

На наступны дзень Марцін чухаў патыліцу, абураўся, але разумеў, што сам сабе нарабіў шкоды, бо выхваляўся багатым ураджаем.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

## Яна і ты

За **жанчынай** застаецца апошняе слова ва ўсякай спрэчцы. Любое слова, сказанае **мужчынам** пасля гэтага, з'яўляецца пачаткам новай спрэчкі.

### ГАРАСКОП 29 ЛІСТАПАДА – 5 СНЕЖНЯ



**Авен (21.03–20.04)**

З'яўленне на небасхіле апекуноў, што садзейнічаюць прасоўванню ў кар'еры (аднак калі вы схільныя страціць некаторыя лідэрскія пазіцыі і часова стаць "вядомым").



**Цялец (21.04–21.05)**

Адкрыецца "другое" дыханне, і вы з поспехам выканаеце ўсё, што дастаткова доўга адкладвалі. Шанцаванне і шчаслівы выпадак не пакінуць вас практычна да сярэдзіны снежня.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Перыяд поўнага застою, як у справах, так і ў асабістай сферы. Не раіцца рушыць у дарогу, давяраць каму б ні было нават маленькія сакрэты і займаць грошы.



**Рак (22.06–23.07)**

Рамантычны настрой будзе замінаць справам, якія, наадварот, будуць здольныя атруціць асабістае жыццё. У жанчын магчымыя дамаганні з боку назойлівых прыхільнікаў.



**Леў (24.07–23.08)**

Добры перыяд для ваенных і кіраўнікоў любога рангу. Але не спяшайцеся кідацца на прапановы, выгадныя на першы погляд. Вучыцеся быць стратэгам. Дамашнія і блізкія сябры неадкладна запатрабуюць вашую дапамогу.



**Дзева (24.08–23.09)**

Вы будзеце асабліва раздражняльныя, таму імкніцеся меней мець стасункаў і не высвятляйце адносіны. "Працверазенне" можа быць вельмі непрыемнае. У той жа час, любоўная інтрыжка можа пераўзысці ўсе чаканні.



**Шалі (24.09–23.10)**

Да 2 снежня не варта фарсіраваць падзеі. Непаладкі са здароўем, а таксама некаторыя надзеі, што не апраўдаліся, могуць павергнуць у стан дэпрэсіі. Але ўжо з чацвярга да вас вернецца добры настрой і адкрыюцца новыя перспектывы.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Не адпраўляйцеся ў дарогу 2 снежня. Але і да гэтага дня вас чакае беспакойны перыяд – вы можаце знайсці вакол сябе поўны вакуум, і вінаватых шукаць няма дзе. Узнікнуць фінансавыя праблемы.



**Стрэлец (23.11–21.12)**

Сонца ў вашым знаку дадасць упэўненасці ў сабе, смеласці ў прыняцці рашэнняў. 1–2 снежня нечаканыя забавы і выгадныя фінансавыя прапановы.



**Казярог (22.12–20.01)**

Апатыя, перашкоды і фатальнасць, што заміналі вам апошнім часам, знікнуць. Можаце смела брацца за рэалізацыю ранейшых планаў і будаваць новыя.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Няпросты фінансавы стан азмрочыць тыдзень. Аднак не звяртайце ўвагу на фаталізм і асуджанасць, Фартуна павернецца да вас тварам.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Не надта шчыруйце на рабоце, усё адно не атрымаеце цалкам заслужаную ўзнагароду. Спакойны і лянівы перыяд.

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Лепшыя рэцэпты беларускай кухні

## Буракі аматарскія

*5–6 буракоў, 2 галоўкі часнаку, 50 г воцату 3%–нага, соль, перац чорны молаты.*

Вараныя ахаладжаныя буракі ababраць, парэзаць на скрылькі, перасыпаць дробна парэзаным часнаком. Дадаць соль, перац, спырснуць воцатам, заправіць алеем і пакінуць у халодным месцы на суткі для марынавання.

Упрыгожыць зелянінай. Падаць салату да стала асобна ці як гарнір да мясных, рыбных страў.

## Кілбаскі па–магілёўску

*200 г свінога, 300 г ялавічнага фаршу, 50 г вады, 1 яйка, 0,5 галоўкі часнаку, 1 вялікая лыжка мукі, 1 вялікая лыжка тлушчу.*

Змяшаць свіны і ялавічны фарш, дадаць сырое яйка, дробна парэзаны часнок. Раздзелаць у выглядзе кілбасак (з разліку 2 штукі на порцыю), абваляць у муцэ, выкласці на разагрэтую і змазаную тлушчам патэльню. Запячы ў духоўцы.

Падаць да стала з гарнірам: варанай бульбай, бульбяным пюрэ, тушанай капустай.

## Аладкі бульбяныя па–мінску

*12 бульбін, 2 вялікія лыжкі алею, 2 вялікія лыжкі масла, соль.*

*Для фаршу: 400 г свініны, 4 зубкі часнаку, перац, соль.*

Сырую бульбу надзерці на тарцы, пасаліць. Падрыхтаваную масу выкласці лыжкай у выглядзе аладкі на моцна разагрэтую патэльню і абсмажыць з двух бакоў. Гатовыя аладкі пакласці ў качачніцу, змазаную маслам, перакласці іх свіным фаршам, запраўленым соллю, перцам, дробна парэзаным часнаком, і паставіць у духоўку на 15–20 хвілін.

## Капуста па–вясковым

*1 сярэдні качан капусты, 0,5 галоўкі часнаку, 1,5 л расолу агурочнага, 5 г кропу, соль.*

Капусту пачысціць, памыць, раздзяліць на долькі, не выдаляючы храпку. Шчыльна паскладваць у сатэйнік, на дно якога наліць вады, накрыць накрыўкай і паставіць на 2–3 гадзіны ў духоўку пры тэмпературы 105–110°С. Затым капусту ахаладзіць, пасыпаць здробненым кропам і дробна пакрышаным часнаком, заліць агурочным расолам, пакласці пад цяжар. Вытрымаць у холадзе на працягу двух сутак.

Нарэзаць невялікімі долькамі. Падаць да стала з варанай бульбай.

*Наталля БРОЎКА.*

## Міні-футбол

# Чорны дзень «металургаў»

**Металург – Сімург (Мінск) 0:6 (0:2)**

**Суддзі**: У. Місючэнка, А. Жукаў (абодва – Мінск).
**Галы**: Іванюцін (5), Шэлег (19, 21), Шакута (27), Савінцаў (33, 36).
**Склад**: Кіркіж; Янель (кап.), Мацюк, Кабельскі, Сіткевіч; Казлоўскі, Клімовіч, Андросік, Гружэўскі; Ваўчок, Казяк, Бахур.

Саапернік у мінулым туры быў вельмі моцны, лідэр чэмпіянату, каманда, у якой сабраныя, бадай, лепшыя на сёння беларускія гульцы ў міні-футбол. Дарэчы, "Сімург" у перакладзе з азербайджанскай мовы гучыць, як "трыццаць птушак".

Пачатак матча абнадзейваў: ішла роўная гульня, маладзечанцы нават мелі некаторую перавагу. Як часта ўжо здаралася, прапусцілі гол падчас контратакі праціўнікаў: не дагледзеў за сваім падапечным **Валянцін Гружэўскі**. Праз колькі хвілін яшчэ адна памылка ў абароне прывяла да другога прапушчанага мяча.

Канцоўку першага тайма "Металург" правёў актыўна, стварыў некалькі галявых момантаў, прабівала каманда дванаццаціметровы штрафны ўдар, аднак забіць так і не ўдалося. На перадапошняй хвіліне атрымалі права на пенальці з 6 метраў, аднак і гэтую магчымасць для ўзяцця варот выкарыстаць не здолелі: схібіў **Дзмітрый Янель**. У выніку атрымалі маральны надлом і яшчэ чатыры галы пасля перапынку. У асноўным, прапускалі з-за сваіх памылак, не выручаў як след і галкіпер **Ігар Кіркіж**.

**Сяргей Сафонаў** адзначыў, што шмат галоў атрымлівалі пры контратаках сапернікаў. Хлопцы пакуль не падрыхтаваныя да вядзення шчыльнай абароны, часта дарэмна спадзяюцца на свае хуткасныя якасці, на магчымыя памылкі ў перадачах праціўніка. Па-ранейшым адмоўна адбіваецца тое, што каманда трэніруецца на даволі цеснай пляцоўцы палітэхнікума, тады як гуляць даводзіцца ў вялізнай зале БДПА ў Мінску. Вось і наступны дамашні матч пройдзе там жа. У залу ЗЛМК, якая адпавядае ўсім умовам, "Металург" усё яшчэ не пускаюць.

Педуніверсітэт – МАПІД 2:6, Белаўтасервіс – Беліндзяржстрах-БДПА 5:0 (тэхнічнае за няяўку), Энергетык – Верас 4:6, МЭСР – ЦКК 3:3, БАТУ – Эканаміст 4:6, РТІ-Заслаўе – Дарожнік 2:3.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Сімург | 24 |
| 2. | Дарожнік | 22 |
| 3. | ЦКК | 16 |
| 4. | Верас | 16 |
| 5. | МАПІД | 14 |
| 6. | Металург | 13 |
| 7. | Педуніверсітэт | 12 |
| 8. | Беліндзяржстрах | 12 |
| 9. | Энергетык | 10 |
| 10. | Белаўтасервіс | 9 |
| 11. | МЭСР | 9 |
| 12. | Эканаміст | 3 |
| 13. | РТІ-Заслаўе | 3 |
| 14. | БАТУ | 0 |

Бамбардзіры: **Лагутка** (Дарожнік) – 16; **Шакута** (Сімург) – 13; **Пішчала** (ЦКК) – 12; **Буцэнка** (Беліндзяржстрах), **Янель** – па 10; **Мацюк** – 9.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

**АНОНС**

**27.11 Адкрытае першынство Мінскай вобласці па бегу на 100 кіламетраў.**
Маладзечна. Лёгкаатлетычны манеж. Пачатак – 9.00. Запрошаныя мацнейшыя спартсмены рэгіёна. Жанчыны і мужчыны-ветэраны пабягуць 50 кіламетраў.

**28.11 Металург – Энергетык (Орша)**
Мінск, зала БДПА

## Баскетбол, валейбол

# Абласныя чэмпіянаты працягваюцца

Пра першыя занальныя выпрабаванні на чэмпіянатах Мінскай вобласці па баскетболе і валейболе "РГ" паведамляла.

У Валожыне і Лагойску прайшлі занальныя турніры жанчын-баскетбалістак з удзелам нашых зямлячак.

Валожын: 1. Валожынскі раён. 2. Вілейскі раён. 3. Маладзечанскі раён. 4. Заслаўе. 5. Мядзельскі раён.

Лагойск: 1. Лагойскі раён. 2. Маладзечна. 3-5. Жодзіна, Смалявіцкі раён, Барысаўскі раён.

Першыя дзве каманды трапляюць у паўфінальныя спаборніцтвы. Хутчэй за ўсё, гуляць будуць у Валожыне 3-5 снежня.

Мужчыны-баскетбалісты правялі свой паўфінал у Лагойску. 1. Жодзіна. 2. Лагойскі раён. 3. Валожынскі раён. 4. Вілейскі раён. 5. Барысаўскі раён. Крышачку не хапіла нашым землякам, каб заняць першае альбо другое месцы і трапіць у фінальную пульку. Рэальна маглі прэтэндаваць валожынцы, аднак паехалі на спаборніцтвы ў мінімальным складзе, практычна без замен.

Жанчын-валейбалістак чакае паўфінал у Капылі 26-28 лістапада – тут нашыя спадзяванні на маладзечанак і мядзелчанак. Праўда, апошнія не надта разлічваюць на добрае выступленне, і, магчыма, з-за фінансавых цяжкасцяў не паедуць.

Мужчыны-валейбалісты правялі паўфінал у Беразіно. 1. Барысаў. 2. Мядзельскі раён 3. Беразінскі раён. 4. Маладзечна. 5. Мінскі раён. І вось тут маем прыемную навіну. Парадавалі мядзельцы. **Сяргей** і **Юрый Ломаці**, **Аляксандр Атрошка**, **Яўген Садоўнікаў** і іх партнёры (кіраўнік каманды **Міхаіл Захарэвіч**) абыгралі трох сапернікаў і толькі ў апошняй партыі, ва ўпартай барацьбе саступілі камандзе горада Барысава, разам з якой і заваявалі пуцёўку на "фінал", на якім у сярэдзіне снежня яшчэ выступяць салігорцы і нясвіжцы. Месца правядзення пакуль невядомае.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## Ветэраны

# 8:8 без дамоўленасці

***СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні маладзечанскія і смаргонскія ветэраны футбола па–суседску дамовіліся згуляць матч. У зале спарткомплексу "Юнацтва" і прайшла гэтая сустрэча па міні-футболе.***

Склад гаспадароў: варатар **Аляксандр Лобан**, палявыя **Сяргей Новік**, **Дзмітрый Максіменка**, **Валерый Шашоў**, **Пётр Шчасны**, **Андрэй Майсейчанка**, **Вячаслаў Самохін**, **Сяргей Леўчанка**, **Сяргей Недавес**. Забівалі амаль усе гульцы, а найлепш сябе праявілі апошнія два.

У маладзечанцаў па тры мячы правялі **Аляксандр Чарняўскі** і **Уладзімір Галубко**, яшчэ па адным – **Генадзь Талькоўскі** і **Сяргей Рысік**. На поле таксама выходзілі **Уладзімір Уснарскі**, **Анатоль Грынь**, **Аляксандр Сіняўскі**, **Аляксандр Талькоўскі** і **Андрэй Казакевіч**.

Уладзмір Галубко сцвярджае, што "нічыя з буйным лікам" наперад гульцамі не планавалася.

*Аддзел інфармацыі.*

## Нашы інтэрв'ю

# «Апошні з магіканаў» пакідае «Маладзечна»?

***Пра жыццёвы шлях, незабыўныя перамогі маладзечанскага футбола, светлых і цёмных момантах сёлетняга сезона наша гутарка з выконваючым абавязкі галоўнага трэнера ФК "Маладзечна" Уладзімірам ГАЛУБКО.***



1989 год, «Металург» — «Трактар». Злева направа: Аляксандр Чарняўскі, Уладзімір Трус, Генадзь Талькоўскі, Аляксандр Лепеш, Аляксандр Вяжэвіч, Сяргей Капцюг, Юрый Ліпчынскі, Аляксандр Субач, Аляксандр Бяляцкі, Аляксандр Сіняўскі і капітан каманды Уладзімір Галубко.



13 жніўня 1990 года. Міністр спорту Уладзімір Рыжанкоў і старшыня Федэрацыі футбола Беларусі Яўген Шунтаў уручаюць кубак БССР капітану маладзечанцаў Уладзіміру Галубко.

ФОТА З АРХІВА У. ГАЛУБКО.

**– Вы адзіны актыўна працавалі сёлета ў штаце клуба з тых, хто меў дачыненне да залатой пары каманды на мяжы 90-х. Да гэтых прыемных успамінаў мы яшчэ звернемся, а пакуль, калі ласка, раскажыце пра дамаладзечанскі перыяд свайго жыцця.**

– Біяграфія сялянская. Вырас на Гродзеншчыне, у вёсцы Турэц Карэліцкага раёна. Колькі памятаю сябе, з мячом не развітваўся. Пяць вуліц было ў вёсцы, і кожная мела сваю футбольную паляну. А высвятляць глабальныя адносіны збіраліся на вялізным школьным стадыёне. Можна сказаць, я быў завадатарам. Калі вучыліся ў шостым-сёмым класах, школьнай камандай удзельнічалі ў турніры "Скураны мяч". Дамагліся незвычайных поспехаў: выйгралі раённы турнір, потым абласны ў Гродне. Нарэшце, на рэспубліканскіх спаборніцтвах у Наваполацку сталі трэція. Я быў капітанам каманды, лепшым нападаючым. Сёлета якраз споўнілася 25 год з той пары. Пасля школы ў РТІ паступіць не атрымалася, пайшоў служыць у армію ў Ноўгарад ды трапіў у футбольную каманду Ленінградскай акругі, з якой аб'ездзілі ўвесь савецкі поўнач. Яшчэ служыў у Маскве ў аэрапорце Унукава. Аднойчы давялося згуляць хвілін пятнаццаць у таварыскім матчы супраць асноўнага склада маскоўскага "Спартака". Калі вярнуўся на Радзіму, паступіў у інфізкульт. На адным курсе са мною вучыліся дублёры мінскага "Дынама" **Андрэй Шаліма**, **Павел Раднёнак**, **Аляксандр Мятліцкі**, **Андрэй Сасніцкі**, **Ігар Крывушэнка**. Гуляў на чэмпіянаце рэспублікі за "Буравеснік", ужо з другога курса працаваў дзіцячым трэнерам, зарабляў нейкую капейчыну. Скончыў інстытут з добрымі адзнакамі, мог выбіраць размеркаванне па асабістым жаданні. Прапанавалі застацца ў Мінску, аднак хацелася самастойнай работы, таму абраў Маладзечна. Прыехаў сюды ў 1985-м, меркаваў, што ненадоўга. Разам з работай у ДЮСШ, узяў на сябе ініцыятыву па стварэнні моцнай мясцовай каманды. Тады "Станкабудаўнік" гуляў на абласным чэмпіянаце ды ў прафсаюзных спаборніцтвах. У 1988 годзе мы выйгралі "вобласць", а ў пераходным турніры абыгралі каманды Жодзіна і Барысава, атрымалі права выступаць у 2 лізе чэмпіянату БССР. Гулялі тады не за грошы, а за любоў да футбола. Тым часам развіццём спорту нумар адзін зацікавіўся дырэктар завода парашковай металургіі **Генадзь Карпенка** і, як цяпер памятаю, 22 сакавіка 1989 года на матчы саюзнага Кубка Федэрацыі паміж мінскім "Дынама" і вільнюскім "Жальгірысам", які праходзіў у Маладзечне, ён сказаў, што галоўным трэнерам каманды будзе **Сяргей Бароўскі**. Вось так і пачалася эпоха прафесійнага футбола ў горадзе. У тым сезоне за каманду яшчэ выступалі мясцовыя хлопцы, а вось з наступнага года, дэбютнага ў мацнейшай рэспубліканскай лізе, з'явілася шмат прыезджых гульцоў.

**– Вы працягвалі выходзіць на поле, былі капітанам, гуляючым трэнерам. Надышоў незабыўны 1991-ы.**

– Сапраўды, гэта незабыўнае. У рэспубліцы падобнага яшчэ не было. На трыбуны прыходзілі па 5-8 тысяч балельшчыкаў. Людзі збіраліся на сапраўднае відовішча. Мы двойчы выйгралі Кубак БССР, перамаглі ў чэмпіянаце. Самыя жывыя ўспаміны ад матчаў саюзнага Кубка. Вельмі цяжка даўся чвэрцьфінал у Арзамасе, калі прайгралі 2:4 пасля дамашніх 2:0. Да апошніх хвілін змагаліся ў Лазавой супраць "Авангарда". Дома было 3:0, але там прайгравалі 0:1. Добра, што вызначыўся **Віталік Казяк**, які зраўняў лік. Само сабою, на ўсё жыццё запомнілася фінальная сустрэча ў Азербайджане. Калі ішлі ў раздзявальню, гледачы кідалі камянямі, варатара **Андрэя Буглака** ўдарылі па твары. Але мы былі на галаву мацнейшыя за гаспадароў. Гулялі з вялікай самааддачай. Прапусцілі адзін гол пасля таго, як **Саша Вяжэвіч** забіў двойчы ў першым тайме. Другі гол ён правёў нечакана для сапернікаў пасля розыгрышу штрафнога.

**– Потым на некалькі год вы пакінулі каманду.**

– Так, гуляць закончыў. Пайшоў трэніраваць "Электрамодуль". На заводзе былі задумкі па стварэнні моцнай паралельнай каманды, аднак ажыццявіць іх не ўдалося. Гулялі мы ў 3 лізе (цяпер 2–я) нацыянальнага чэмпіянату. Тады 15–гадовымі ў нас дэбютавалі **Макоўскія**. Адначасова працаваў у ДЮСШ. Пачыналі ў мяне хлопцы 1981 года нараджэння, цяперашнія гульцы "Забудовы" **Аляксандр Чарнель**, **Сяргей Студэнт**, **Дзяніс Смірноў**. А ў 1996, калі каманду ўзначаліў **Ігар Бялоў**, ён паклікаў мяне сваім памочнікам.

**– Мы крыху забыліся на тэму асабістага жыцця. Вы ж не збіраліся надоўга заставацца ў Маладзечне.**

– Ну, вось атрымалася надоўга. Ажаніўся ў 1987 годзе. Нарадзілася дачка. Атрымаў кватэру. А летам 1997-га жонка падарыла сына. У той дзень мы гулялі ў Брэсце. Нечакана перамаглі 2:1, абодва мячы правёў Казяк. Хлопцы жартавалі, што сына трэба назваць Віталем. Аднак я наперад падрыхтаваў іншае імя – Дзіма. Яно сугучнае слову "Дынама", таму самаму, якое так шмат радасці дарыла беларусам напачатку 80-х.

**– Вернемся да нашых рэалій. Апошнія тры гады сітуацыя ў клубе рабілася ўсё горшая і горшая.**

– Спачатку быў нейкі выратавальны круг у асобе Хвастовіча. Атрымлівалі нармальныя грошы, былі добрыя гульцы. Аднак, зразумела, у яго былі свае мэты. Вырасціць футбаліста і прадаць. Цяпер калі паглядзець, дык амаль у кожнай беларускай камандзе ёсць гульцы, што прайшлі праз "Маладзечна". Мінулай вясной каманду забралі гарадскія ўлады. Хаця фінансаванне было не самае дрэннае, але людзей ўжо не засталося. Пачалі шукаць вінаватых, пасля першага круга на пасяджэнні савета дасталі са стала аддрукаваную паперку з імем новага галоўнага трэнера.

**– Нагадаем чытачам, што здымалі з пасады якраз Галубко, які адпрацаваў галоўным амаль паўгода пасля ўходу Бялова. Упершыню вам тады давялося ўзначаліць каманду вышэйшай лігі. Наколькі цяжка было працаваць?**

– Зразумела, быў патрэбны пэўны досвед. Усё ж прыходзіць з часам. Вывучаў літаратуру, відэазапісы. Як мог, так і працаваў. Успамінаецца станоўчае. Менавіта тады, у маі, "Маладзечна" атрымала адзіную дамашнюю перамогу за два апошнія чэмпіянаты – над слонімскім "Камунальнікам".

**– Сёлетні сезон як суцэльная цёмная пляма?**

– Можна шмат казаць. На мой погляд, вялікай памылкай з боку кіраўніцтва было тое, што не ўтрымалі дасведчаных хлопцаў, якія абавязкова прынеслі б карысць камандзе, – **Аляксандра Сінкаўца**, **Аляксандра Клімовіча**, **Дзмітрыя Каўтовіча**, **Аляксандра Андросіка**. Былі непрыемныя сітуацыі з трэнерскай чахардой. І **Міхаіл Шутовіч**, і **Барыс Лазарчык** прыводзілі сваіх перспектыўных выхаванцаў, але ж самі яны – спецыялісты па дзіцячым футболе. На першы матч у Мазыр везці каманду ў складзе ўсяго адзінаццаці чалавек прыйшлося мне. Летам збіраўся пакідаць клуб, быў не згодны з камплектаваннем. Было відаць, што новыя гульцы не змогуць выступаць на ўзроўні вышэйшай лігі. А самае кепскае, што зноў не гулялі за каманду мясцовыя хлопцы. Калі яшчэ летась балельшчыкі прыходзілі на стадыён, бачылі на варотах **Мікалая Абрамовіча**, дык маглі зразумець, дзе свае, дзе чужыя. Сёлета ж у першым крузе гулялі адны прыезджыя. У другім крузе ўзмацнілі склад, з'явіліся хлопцы з "Забудовы", аднак сітуацыя палепшылася ненадоўга. Чэмпіянат прыйшлося проста дагульваць.

**– А давайце пашукаем нейкія светлыя моманты. Ну, вось хто з маладых добра праявіў сябе? Хто з больш сталых як след адгуляў?**

– Перспектыўны хлопец **Павел Рыжэўскі**. Думаю, ён павінен загуляць на добрым узроўні. Самае лепшае ўражанне пакінуў, безумоўна, **Дзмітрый Молаш**. Чалавек, які жадае і ўмее гуляць у футбол. Толькі б яго не сапсавала спартыўнае жыццё. Натуральна, **Сяргей Дараховіч** і **Віталь Макрыцкі**. Добрыя, гуляючыя хлопцы. Спадабаўся **Андрэй Парываеў**. А астатнія не лепшыя за тых, што ёсць у маладзечанскай ДЮСШ. Што тычыцца сталых гульцоў, дык адказна правёў чэмпіянат **Віталь Рагуновіч**, на добрым узроўні дзейнічаў **Сяргей Вайтовіч**, дапамог дасведчаны **Міхаіл Мархель**. Свой лепшы сезон меў **Сяргей Кабельскі**. Ён паказаў сябе ўніверсалам, гуляў ад абароны да атакі, аддаў камандзе ўсё, што мог. Заслужыў гуляць на больш высокім узроўні, на днях падпісаў кантракт з "Шахцёрам".

**– А Аляксандр Васілеўскі, Вячаслаў Дзербан?**

– Ну, Васілеўскі як Васілеўскі. У яго ж па статыстыцы адны з найгоршых паказчыкаў у вышэйшай лізе за некалькі год. Напрыканцы сезона я такога ад яго нагледзеўся... Гуляў безадказна, як у нейкім асабістым тэатры. Дзербан таленавіты футбаліст, аднак праблемы са здароўем, з рэжымам не даюць яму раскрыцца ў поўнай меры.

**– Да тэмы рэжыму і здароўя. Вы выходзілі на поле ў 1996-м. Гэтай зімой сталі лепшым бамбардзірам каманды на зімовым турніры. Як удаецца падтрымліваць спартыўную форму?**

– Абсалютна не куру. Ну, а жыццёвы досвед дапамагае дакладна вызначыць як, дзе і колькі можна дазволіць сабе расслабіцца. Шмат гуляю за ветэранаў. На трэніроўках імкнуся не адставаць ад моладзі ды падаваць асабісты прыклад.

**– Што маем на гэты момант? Ці разлічылася кіраўніцтва з камандай? Якой бачыцца будучыня?**

– Цяпер мы ў адпачынку. Грошы не атрымалі яшчэ за жнівень. Не ведаю, дачакаемся іх ці не. Для сябе вырашыў, што трэба сыходзіць. Ёсць канкрэтная прапанова працаваць галоўным трэнерам у "Азярках", камандзе другой лігі. Сорамна прыходзіць дамой і казаць сям'і: зарплату зноў не выдалі. З цяжкасцю верыцца, каб наступны сезон быў у нечым лепшы. Баюся нават, што, як "Лунінец", так і "Маладзечна", будзе трэніравацца ў Мінску, а на месца прыпіскі прыязджаць толькі на гульні. Ды і стадыён жа ставіцца на рэканструкцыю, незразумела, дзе каманда будзе гуляць. Так што будучае зусім нявызначанае.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*КРАЯЗНАЎСТВА*

# 205 год Ігнату Ходзьку

29 верасня было 205 год з дня нараджэння выдатнага пісьменніка сярэдзіны XIX стагоддзя Ігната Ходзькі. Яго прозвішча можа здацца незнаёмым большасці сучаснікаў. Толькі некаторыя асобы старэйшага пакалення, якія хадзілі ў школу да вайны, могуць адказаць на пытанне, пра што ж ён пісаў, бо творы І. Ходзькі былі хрэстаматыйныя ўжо пры жыцці пісьменніка і заставаліся такімі да 1939 года, пачатку другой сусветнай вайны. Адзіная прычына такой няўвагі – гэта тое, што ён пісаў свае творы на польскай мове, хаця гаворка ў іх увесь час ішла пра Літву, як тады называлі наш край. Сёння агульнае меркаванне нашых навукоўцаў – вярнуць творчасць Ходзькі і іншых мясцовых польскамоўных пісьменнікаў беларускаму чытачу. Дзеля гэтага наладжаная перакладчыцкая праца, і мы неўзабаве павінны ўбачыць творы І. Ходзькі, выдадзеныя міжнародным фондам "Беларускі кнігазбор". Мне асабіста давялося перакладаць найбольш выдатнае апавяданне І. Ходзькі – "Баруны". Гэта ўспаміны пра школьныя гады, праведзеныя ў сценах павятовай барунскай школы для шляхецкіх дзяцей, якая знаходзілася пад апекай ксяндзоў–базыльянаў і давала вучням права далейшага паступлення ў Віленскі ўніверсітэт. З яе выйшлі ў розныя гады сакратар М. К. Агінскага Леанард Ходзька, сябар і паплечнік А. Міцкевіча Антоні Эдвард Адынец, перакладчык Гётэ і Шылера на польскую мову Юльян Корсак, прафесар матэматыкі віленскага ўніверсітэта Антоні Вырвіч і многія выдатныя дзеячы дзяржаўнай і духоўнай іерархіі. Пра апавяданне "Баруны", а таксама пра творчасць І. Ходзькі ў цэлым можна сказаць словамі У. Сыракомлі: "Стоячы на пагранічы двюх эпох, Ходзька вельмі многа памятаў са старасвецкіх часоў, рэшту адчуваў сваім мастацкім чуццём, і на ўсё ўмеў кінуць такое прыгожае святло любові, што захапляў чытача тымі часамі і тымі людзьмі, прымушаючы забыцца, што тая эпоха мінулага мела не адзін свой цёмны бок".

Ходзька – пісьменнік–краязнаўца. Яго творы мелі, у асноўным, і адпаведныя назвы: "Літоўскія малюнкі", "Літоўскія паданні", "Дзве гутаркі з мінулага", "Мемуары квестара". Калейдаскоп тэм гэтых твораў невялікі, але затое аўтар ведаў іх грунтоўна, і ў гэтым быў сакрэт іх неверагоднай папулярнасці. Пра гэтую папулярнасць вядомы віленскі літаратар Адам Плуг пісаў так: "... іх (твораў – Т. К.) галоўныя героі, можна сказаць, з кніжак пераносіліся да людзей і жылі разам з імі, усім вядомыя і блізкія". Творчае жыццё І. Ходзькі праходзіла ў родавым маёнтку Дзевятні недалёка ад Смаргоні, а пахаваны ён у сямейнай грабніцы ў Войстаме. Таму варта было б і нам больш ведаць пра гэтага чалавека. Ігнат Ходзька нарадзіўся ў маёнтку Заблочын Вілейскага павета ў сям'і завілейскага гродскага суддзі Антонія Ходзькі і Катажыны Відмант. Пасля шасцігадовага навучання ў Барунах вучыўся на філасофскім факультэце Віленскага ўніверсітэта і скончыў яго ў 1814 годзе са званнем кандыдата філасофіі. Будучы родным пляменнікам і падапечным (бо бацькі І. Ходзькі рана памерлі) Яна Ходзькі, інспектара навучальных устаноў Віленшчыны і Міншчыны, вядомага тагачаснага пісьменніка і, дарэчы, сябра М. К. Агінскага, ён у час вайны 1812 года быў настроены прафранцузска і дапамагаў напалеонаўскім інтэндантам дамаўляцца аб дастаўцы харчавання з мясцовымі жыхарамі.

Пасля заканчэння мясцовага ўніверсітэта дзядзька Ян уладкаваў яго на працу ў канцылярыю радзівілаўскай масы (установы, якая займалася справамі ўсіх шматлікіх радзівілаўскіх земляў). Ён жа ўвёў яго ў віленскае літаратурнае жыццё і дзейнасць масонскіх ложаў Мінска і Вільні. Дарэчы, у гэтых масонскіх ложах Ходзька і выступіў са сваімі першымі літаратурнымі пробамі пад псеўданімам Віршайтас. Крыху пазней дзядзька ўзяў маладога пляменніка ў Варшаву і там таксама ўвёў у літаратурныя колы. У дзейнасці віленскага таварыства шубраўцаў, якое папярэднічала "міцкевічаўскім" філарэтам і аб'ядноўвала прагрэсіўных маладых творцаў, І. Ходзька таксама ўдзельнічаў, але яму было наканавана жыць у вёсцы і весці гаспадарку, таму што, апрача яго, займацца гэтым не было каму. Разам з дзядзькам ён пакінуў радзівілаўскую канцылярыю і назаўсёды пасяліўся ў Дзевятнях, якія належалі тады да Завілейска-


ІГНАТ ХОДЗЬКА.

га павета, які ўваходзіў у склад гістарычнай Ашмяншчыны. У 1825 ажаніўся з Людвікай Мацкевіч (гэта для яе А. Міцкевіч у 1824 годзе напісаў верш "Далёкай незнаёмцы"). Землякі выбіралі яго на розныя пасады: ён быў дэпутатам віленскай губерні, старшынёй завілейскага гродскага суда, падкаморым, на працягу многіх гадоў здзяйсняў ганаровае куратарства павятовай свянцянскай школы. У 1855 стаў членам Віленскай Археалагічнай камісіі. Памер у Дзевятнях 1 жніўня 1861 года ва ўзросце 67 год. Незадоўга да смерці яго напаткала некалькі цяжкіх udараў лёсу. У 1856 годзе памерла яго адзіная дачка, пакінуўшы малалетнюю ўнучку (яе нашчадкі па прозвішчы Святлодыч–Кісель жывуць сёння ў Францыі). Да сямейнага няшчасця далучыўся дысананс з тагачасным светам, які выказаў пратэст супраць удзелу І. Ходзькі ў стварэнні так званага "Віленскага альбома", гэта значыць, публікацыі, выдадзенай Віленскай Археалагічнай камісіяй у гонар побыту імператара Аляксандра II у Вільні. Вернападданніцкая пакорлівасць і бязмежнае ўсхваленне імператара зрабілі дрэннае ўражанне нават на блізкіх сяброў І. Ходзькі і тых, хто разам з ім ствараў "Альбом": А. Кіркора, А. Э. Адынца, М. Маліноўскага. У Вільні выйшла спецыяльная брашура пад назвай "Адступнікі", якая кляйміла стваральнікаў "Альбома". Прычынай такіх непрывабных паводзін І. Ходзькі, які заўсёды быў у авангардзе дэмакратычнай думкі, магло быць тое, што грозныя падзеі паўстання 1831 года і яго паражэнне ад расійскіх войскаў здаліся яму вельмі страшнымі для літоўскіх земляў. Намагаючыся апраўдаць І. Ходзьку перад чытачамі, бязмерна прывязаны да яго Сыракомля пісаў: "... калі ён мог памыліцца перакананнем, то ніколі не памыліўся сэрцам". Паступова сучаснікі палепшылі свой стасунак да вядомага пісьменніка. У 1859 годзе Кракаўскае навуковае таварыства назвала яго сваім членам–карэспандэнтам і змясціла вельмі цёплы артыкул пра яго ў тагачасным часопісе. Імя Ігната Ходзькі належыць у Польшчы і сёння да ліку класікаў літаратуры. Пра яго чалавечыя рысы піша ў сваіх мемуарах жыхарка Дабраўлян Габрыэля Пузына, талент якой заўважыў і падтрымаў І. Ходзька. У нас жа знаёмства з ім і яго творчасцю яшчэ наперадзе.

*Таццяна КЛЯШЧОНАК,*
*Смаргонь.*

## Ён быў першы!

КРЫВІЧЫ. Напэўна, нават не ўсе крывічане ведаюць, што ў далёкім XVIII стагоддзі тут нарадзіўся і рос генерал–лейтэнант, вучоны і грамадскі дзеяч Юзаф Ходзька (1800–1881 гг.), стрыечны брат Ігната. Яго імя і прозвішча ўшанавана на мемарыяльнай дошцы ў мясцовым касцёле і ва ўсіх энцыклапедыях свету.

Захапленнем нашага земляка была геадэзія. Ён першы склаў падрабязныя карты Каўказа, першы пранік у высакагорную частку Грузіі – Сванетыю. За высокія навуковыя дасягненні генерал–лейтэнант Ю. Ходзька ў 1868 годзе атрымаў вышэйшую ўзнагароду Расійскага геадэзічнага таварыства – Вялікі Канстанцінаўскі медаль.

*Мечыслаў СТАНКЕВІЧ.*

*НАША АНКЕТА*

## З вашай дапамогай мы зробім для вас газету лепей!

1. Калі і дзе вы чытаеце газеты? ................
2. Якія вы чытаеце газеты? ................
3. Калі вы штодня чытаеце больш за адну газету, то чаму? ................
4. Якім цэнтральным газетам вы аддаяце перавагу? ................
5. Якім мясцовым газетам вы аддаяце перавагу? ................
6. Якім газетам вы давяраеце найбольш? Чаму? ................
7. Якая газета, на ваш погляд, найбольш прафесійная? Чаму? ................
8. Матэрыялаў на якія тэмы вам не хапае ў цэнтральных газетах, таму вы змушаныя шукаць гэта ў мясцовых? ................
9. Ці шукаеце вы эканамічную інфармацыю ў мясцовых газетах? ................
10. Вы аддаяце перавагу чытанню эканамічнай ці палітычнай інфармацыі ў газеце, якая вам падабаецца? ................
11. Вы цікавіцеся біржавай (банкаўскай, грашовай) інфармацыяй і аналітыкай? ................
12. Які аб'ём грашовай інфармацыі вам хацелася б чытаць у мясцовых газетах? ................
13. Вы чытаеце сваю раённую газету, "Рэгіянальную газету", цэнтральныя выданні, іншую прэсу (патрэбнае падкрэсліце)?

Наступныя пытанні для тых, хто станоўча адказаў, ці чытае ён "РГ".

– Вы сочыце за спартыўнай інфармацыяй у "РГ"? ................
Як вам падаецца, гэтай інфармацыі зашмат, не хапае, у самы раз? ................
Якому тыпу інфармацыі вы адаяце перавагу? ................
– Ці чытаеце вы матэрыялы па культуры? ................
Як вам падаецца, гэтай інфармацыі зашмат, не хапае, у самы раз? ................
Якому тыпу інфармацыі вы аддаяце перавагу? ................
– Ці чытаеце вы навіны пра жыццё краіны, міжнароднае? ................
Як вам падаецца, гэтай інфармацыі зашмат, не хапае, у самы раз? ................
Якому тыпу інфармацыі вы аддаяце перавагу? ................

На астатнія пытанні адкажыце па вашым жаданні:

Пол ........ Узрост ........ Адукацыя ................
*Пачатковая, сярэдняя, вышэйшая (ступень і спецыялізацыя)*

Прафесія ................ Работа ................
*(якая пасада, колькі чалавек у падначаленні)*

Жывяце ў горадзе (вёсцы) ................

*Запоўненую анкету можна даслаць у рэдакцыю поштай, прынесці асабіста, перадаць праз нашы пункты прыёму аб'яў. Сярод тых, хто адказаў на анкету, будзе разыграна некалькі прызоў.*

*САЦЫЯЛОГІЯ*

*Апытанне насельніцтва праводзілася ў Ашмянах з 1 па 10 лістапада 1999 года*

## Як вы ставіцеся да аб'яднання Беларусі і Расіі?




## Як вы ацэньваеце сваё матэрыяльнае становішча?




*Па матэрыялах Ашмянскага Цэнтра даследаванняў і аналізу грамадскіх стасункаў.*



*ВАМ НЕАБХОДНА НА ПРЫЁМ ДА ЮРЫСТА*

# Свае правы можна адстаяць і самастойна

Свае правы спажыўцы могуць навучыцца абараняць, калі возьмуць на ўзбраенне Закон РБ "Аб абароне правоў спажыўцоў".

Арт. 4 Закона гаворыць: "Любы спажывец мае права на:
– дзяржаўную абарону сваіх інтарэсаў;
– належную якасць тавараў;
– бяспеку тавараў;
– поўную і дакладную інфармацыю аб таварах;
– пакрыццё ў поўным аб'ёме ўрону, прычыненага таварам неналежнай якасці;
– зварот у суд і іншыя ўпаўнаважаныя дзяржаўныя органы за абаронай парушаных правоў або інтарэсаў, якія ахоўваюцца законам;
– стварэнне грамадскіх аб'яднанняў спажыўцоў.

У шэрагу выпадкаў можна і трэба адстойваць свае правы самастойна.

Калі прададзены тавар неналежнай якасці, спажывец мае права па свайму выбару, у адпаведнасці з п. 1. арт. 10 Закона, запатрабаваць або бязвыплатнага ўхілення недахопаў тавару, або пакрыцця сваіх расходаў з гэтай прычыны, або суразмернага памяншэння пакупной цаны, або замены такога тавару таварам належнай якасці, або скасавання дагавора і пакрыцця панесеных страт. Зрабіць гэта можна на працягу 12 месяцаў з дня куплі, а ў выпадках, калі на тавар устаноўлены гарантыйныя тэрміны, – на працягу гэтых тэрмінаў. Прадавец абавязаны задаволіць патрабаванні пакупніка або адмовіць у пісьмовай форме. Пасля гэтага пакупнік мае права звярнуцца са скаргай у адпаведныя органы (кіравання гандлем, пракуратуру і г. д.) або ў суд.

Трэба памятаць (п. 4. арт. 10 Закона): "Патрабаванні спажыўца разглядаюцца пры прад'яўленні спажыўцом таварнага (касавага) чэка, а па таварах, на якія ўстаноўлены гарантыйныя тэрміны, – належна афомленага тэхнічнага пашпарта або іншага дакумента, што замяняе яго". Калі робіце значныя пакупкі, заўсёды патрабуйце выдачы чэка і афармлення ўсіх неабходных дакументаў. Прадавец абавязаны гэта выканаць незалежна ад формы ўласнасці.

Калі па якіхсці прычынах (форма, габарыты, фасон, афарбоўка, памер або іншыя прычыны) тавар не можа быць выкарыстаны спажыўцом, то, у адпаведнасці з арт. 11 Закона, на працягу 14 дзён, калі не лічыць дня продажу, у выпадку, калі тавар не быў ва ўжыванні, захаваны яго таварны выгляд і спажывецкія якасці, ёсць усе пломбы, фабрычныя ярлыкі, а таксама чэк, спажывец мае права абмяняць яго (за выключэннем тавараў, якія ўваходзяць у пералік тавараў, не падлягаючых абмену) на аналагічны. У выпадку, калі аналагічны тавар адсутнічае ў продажы ў момант звароту спажыўца, прадавец абавязаны прыняць тавар і вярнуць выплачаную суму.

Калі трэба, звяртайцеся па дапамогу ў таварыства абароны правоў спажыўцоў або да юрыста.

*Аляксей ХВОСЦІК,*
*юрыст.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАМ

### БУД. МАТЭРЫЯЛЫ

❑ ТАА "Карбел-Плюс" рэалізуе шыфер 8-хвалевы. Т. у Вілейцы 52624.

❑ Шклопакеты, вытворчасці Ліды. Т. у Маладзечне 60192.

❑ **ЦЭГЛУ, БЛОКІ ГАЗАСІЛІКАТНЫЯ. ДАСТАЎКА. Т. у Маладзечне 70066 (з 8⁰⁰ да 17⁰⁰), 54305 (пасля 18⁰⁰).**

❑ Блокі сілікатныя, нестандартныя. Т. у Смаргоні 52713.

❑ Піламатэрыялы, зрубы. Т. у Маладзечне 64515.

❑ **РУБЕРОЙД.** Т. у Маладзечне 64063.

### ТВ, БЫТАВУЮ ТЭХНІКУ

❑ Пыласос Электрасіла, б/у, 25 у. а. Т. у Маладзечне 60088.

❑ Факс Panasonic KX-F130BX,б/у; шапку і каўнер з чарнабуркі. Т. у Маладзечне 77942.

❑ Халадзільнік Атлант-161, новы. Т. у Маладзечне 67390.

❑ Тэлевізар б/у, ручную помпу да а/м, гадзіннік б/у, прайгравальнік, ложак, палатку, раскладушку. Т. у Маладзечне 68211.

❑ Халадзільнік Мінск-16ЕС, новы. Т. у Маладзечне 31009.

❑ Пліту газавую Брэст, новую, ва ўпакоўцы. Т. у Маладзечне 68775.

❑ Муз. цэнтр AIWA NSX-S111; ВПП DAEWOO DV-K10W. Т. у Маладзечне 60957.

❑ Тэлевізар і в/магнітафон, імпартны, новы. Т. у Смаргоні 37303.

❑ Выцяжку новую, вытворчасці Польшчы. Т. у Маладзечне 65829.

❑ Новы маразільнік Атлант. Т. у Вілейцы 58436.

❑ Халадзільнік, маразільнік. Дастаўка. Т. у Маладзечне 53264.

❑ **ХАЛАДЗІЛЬНІК, МАРАЗІЛЬНІК, ПЛІТУ ГАЗАВУЮ БРЭСТ. Т. у Маладзечне 39121.**

❑ Магнітафон бамбокс з CD, нядорага. Т. у Маладзечне 32041.

### МУЗІНСТРУМЕНТЫ

❑ Домру і скрыпку 2/4. Т. у Маладзечне 68491.

### МЭБЛЮ

❑ **МЭБЛЯ НА ЛЮБЫ ГУСТ**: секцыі, спальні, дзіцячыя куткі, мяккія вуглы, кухні. **НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. Т. у Маладзечне 42052. Тавар сертыфікаваны.

❑ Секцыю, прыхожую, новыя. Т. у Маладзечне 63856.

❑ **НОВАЯ МЭБЛЯ З ДАСТАЎКАЙ.** Спальні, секцыі (горачкі), дзіцячыя пакоі, кухні, мяккія куткі. Навагоднія скідкі. Т. у Маладзечне 36396. Падлягае абавязковай сертыфікацыі.

❑ Спальню Невда-15. Т. у Маладзечне 71836.

❑ Мэблю б/у. Т. у Вілейцы 59027.

### ЖЫВЁЛУ

❑ Ратвейлера, 1,3 года. Т. у Вілейцы 58827 (з 18⁰⁰ да 20⁰⁰).

❑ Маладую карову. Звяртацца па адрасе: Маладзечна, вул. Капуцкага, 35. Т. у Маладзечне 37207.

❑ Коз. Т. у Маладзечне 63893 (пасля 18⁰⁰).

### ІНШАЕ

❑ Касавыя апараты. Т. у Маладзечне 68967. Ліц. №047 ад 15.07.1997 г. да 15.07.2002 г. Падлягае абавязковай сертыфікацыі.

❑ Паўкажушак жаночы, пам. 44-46. Т. у Маладзечне 66528.

❑ Мыйку кухонную эмаліраваную. Т. у Маладзечне 64617.

❑ **НОВУЮ ПРАГУЛАЧНУЮ ЎЦЕПЛЕНУЮ ДЗІЦЯЧУЮ КАЛЯСКУ (ГЕРМАНІЯ); АВЯРЛОК 5-НІТАЧНЫ; ТЭЛЕВІЗАР КАСКАД-61-ТБ, Ч/Б, 1991 г. в. Т. у Маладзечне 64483.**

❑ Кацёл ацяпляльны, стальны, на цвёрдым паліве, 200 $м^2$, 120 у. а. Т. у Маладзечне 70396.

❑ Ванну чыгунную, 1,5 м. Т. у Маладзечне 62656.

❑ Вельмі прыгожыя акварыумы, нядорага. Т. у Маладзечне 39627.

❑ Новае футра, нутрыя, аліўка, памер 48. Т. у Маладзечне 67192.

❑ Дзіцячае харчаванне. Т. у Вілейцы 55914.

❑ Жалезны вагончык, 4х3 м, 3 акны. Т. у Смаргоні 51489.

## КУПЛЮ

❑ Ацынкаваную бляху і любыя будматэрыялы. Т. у Маладзечне 68693 (удзень).

❑ Кнігі: Т. М. Фіалко "Вучымся кроіць і шыць", Г. В. Скачкова "Летні гардэроб". Т. у Маладзечне 63044 (пасля 18⁰⁰, акрамя панядзелка, серады).

❑ **4-Ы ТОМ БЕЛАРУСКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ (1997 г. выдання). Т. у Маладзечне 53841, 69667.**

❑ Тырыстары Т143, 253, 353 (500А, 630А, 800А); дыёды Д133, 143, 153 (800А, 1000А). Т. у Маладзечне 76589 (увечары).

❑ Цяля на мяса. Т. у Маладзечне 62910, 52827.

❑ Піяніна. Т. у Маладзечне 62574.

❑ Сена. Т. у Маладзечне 36370.

## ЗГУБЛЕНА

❑ Згубленае пасведчанне прыватнага прадпрымальніка №17145 на імя С. В. Кажура лічыць несапраўдным.

❑ Згубленыя дакументы грамадзяніна Польшчы Вацлава Будрэцкага просьба вярнуць за ўзнагароду. Т. у Маладзечне 68232.

❑ Згубленыя дакументы на імя Вячаслава Іларыёнавіча Грыгараша просьба вярнуць за добрае ўзнагароджанне. Т. у Мінску 486675.

## ІНШАЕ

❑ 9-класнікі! Калі вы хочаце ўсяго за некалькі гадзін пазнаёміцца са школьным курсам гісторыі Беларусі, тэлефануйце ў Маладзечне 39482 (пасля 18⁰⁰).

❑ Рэпетытарства (урокі, пераклады), французская, італьянская мовы. Т. у Маладзечне 66507.

❑ **ЦЫРУЛЬНЯ "ВЕСТА" ПА ВУЛ. КІРАВА АДКРЫЛАСЯ ПАСЛЯ РАМОНТУ. ПРАЦУЕ З 9⁰⁰ ДА 19⁰⁰. ТЭЛЕФОН ЧАСОВА АДСУТНІЧАЕ.**

❑ Выканаю кантрольныя па нямецкай мове. Т. у Маладзечне 51409.

## ШУКАЮ РАБОТУ

❑ Шукаю работу па пашыве жаночага адзення і мужчынскіх штаноў. Т. у Маладзечне 34714.

❑ Шукаю работу па насціле падлогі, паталочніц; дзверы, вагонка, пластык. Т. у Маладзечне 52506.

❑ Шукаю работу па ўнутранай аддзелцы. Т. у Маладзечне 32521, 60976.

❑ Шукаю работу па рамонце галовак рухавікоў, апрацоўцы пары сядло-клапан, аднаўленні напраўляючых утулак клапанаў амерыканскім інструментам NOUVEI, вадзяных помпаў, генератараў, стартэраў, наканечнікаў і г. д. Т. у Маладзечне 39480 (з 7⁰⁰ да 19⁰⁰).

❑ Шукаюць работу муляр, цясляр. Т. у Маладзечне 60428.



## ПАТРАБУЮЦЦА

Патрабуюцца вадзіцелі для работы на аўтамабілі ГАЗ-52 і 53, акумулятаршчык-аўтаэлектрык па электраабсталяванні аўтамабіля.
Маладзечна, вул. Л.-Роменская, 159.
Тэл. у Маладзечне 70019.



# ВІНШАВАНКІ

*Дарагія чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Віншаванкі звыш пятнаццаці слоў платныя. Мы можам размясціць партрэт таго, каго вы віншуеце, калі вы гэтага пажадаеце. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!*

**Мілая матуля!**
*Шчыра віншую цябе з днём нараджэння! Няхай неба над табою заўсёды будзе такое ж блакітнае, як і твае ласкавыя вочы. Моцнага табе здароўя і ўдачы ва ўсім.*
***Дачка Юлія.***

Віншуем **Таццяну Аляксееўну Вярбоўскую** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, бадзёрасці, аптымізму ў паўсядзённым жыцці. ***Муж і дзеці.***

Віншуем **Вольгу Паўлаўну Шыман** з 70-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця. ***Муж, дзеці, унукі, зяці, нявестка.***

Паважаныя **Ірына і Вячаслаў**! Віншуем вас з нараджэннем сына. Жадаем вашай сям'і здароўя, шчасця! ***Сям'я Снітко.***

Віншуем **Алу Фёдараўну Кавалевіч**! Жадаем шчасця, здароўя, маладосці, усяго найлепшага. ***Сям'я Тамковічаў.***

**Аляксандру Шчарбачэвічу!**
Сегодня день рожденья твой!
Дай Бог тебе хорошего здоровья.
Пусть в доме нашем будет лишь покой,
Согретый счастьем, радостью, любовью.
***Жонка і дачка Настачка.***

Віншую **Алену Іванову** з днём нараджэння. Здароўя, дабрабыту, кахання зычу. Поспехаў ва ўсіх тваіх пачынаннях. ***Віктар.***

Віншуем **Яніну Іосіфаўну Цар** з 40-годдзем. Жадаем шчасця, здароўя, усяго найлепшага. ***Дачка, зяць, унук.***

Віншуем дарагую сяброўку **Юлю** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, а галоўнае, кахання! **Анжэла, Света.**

Мілая **Наташа Станкевіч!** Віншуем з днём нараджэння! Няхай здзейсняцца ўсе твае мары. ***Света і Анжэла.***

**Віктару Дзюбалевічу** у дзень нараджэння ***яго сям'я*** пасылае самыя шчырыя віншаванні, пажаданні здароўя, шчасця, даўгалецця.

# ЗНАЁМСТВЫ

*Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Жадаем знайсці сваё шчасце!*

Сімпатычная ўдава 55/170, забяспечаная, жадае пазнаёміцца з прыстойным мужчынам, пажадана ўдаўцом, для стварэння сям'і. Маладзечна-6, п/п Х-ВН №726760.

Для сур'ёзных адносін пазнаёмлюся з сімпатычным, прыстойным, забяспечаным мужчынам да 46 год. 37 год, разведзеная, разумная, прыгожая, забяспечаная. Маладзечна-4, д/з п/п 713507.

Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з жанчынай да 35 год, можна з дзіцем. 33/170/60, разведзены, не п'ю, без жыллёвых праблем. Маладзечна-6, д/з п/д №3247604.

Пазнаёмлюся з мужчынам да 33 год, які не п'е, не гуляе, не сквапны. Пра сябе: не п'ю, не куру. Адкажу на ліст з фота. 222310, Маладзечна-6, д/з п/п №118301.

**КУПОН 48 для бясплатнай аб'явы**

**Бясплатна змяшчаюцца аб'явы толькі ў рубрыкі "Знаёмствы" і віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст аб'явы

Рэгіянальная газета

Прозвішча, імя, адрас (не для друку):

